Цана асобнага нумару 20 гр.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

№ 4 (197) Вільня, Нядзеля 22 Чэрвеня 1930 г. Год (VI)

# Сялянская Ніва

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу — палітычная, грамадзкая, літэратур. і гаспадарчая газэта

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 (Wilno, Ludwisarska 1) Рэдакцыя адчынена ад 11 да 1 гадз. дня.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Падпіска каштуе на год 4 зл., на паўгода — 2 зл., на 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 60 гр., 2 і 3—50 гр., на 4-ай—40 грш. — за радок дробнага друку ў аднэй шпальце.

## Чаму Беларусы ідуць на выбары з другімі нацыянальнымі меншасьцямі?

Прад выбарамі ў Сойм, часта прыходзіцца чуць закіды ад тых беларусаў, якія служаць чужым багам; якія кіруюцца на Маскву і ад тых, што·міла паглядаюць на Варшаву, што беларускія **незалежнікі** запрадаліся жыдом і жыдоўскай буржуазіі. Кажуць гэта яны затым, што беларускія незалежніцкія групы пайшлі на выбары аб'яднаўшыся ў „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў у Польшчы", у тым ліку і з жыдамі. Ды ня толькі беларускія служкі чужым багам гэтым адстрашаюць беларускіх выбаршчыкаў ад беларускага сьпіску ў беларускіх выбарных вокругах—„Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Польшчы" № 18, гэтым самым страшаць беларусаў і ўсе партыі польскія, пачынаючы ад самых левых, як П.П.С. „Вызваленьне" „Строніцтво Хлопске" і канчаючы „Эндэцыяй". Усе яны, дружна ў поўнай згодзе, „бароняць" у часе прадвыбарнай агітацыі беларускае сялянства ад тых беларусаў, якія дзеля мацнейшай абароны беларускай нацыянальнай і соцыяльнаў справы ў польскім сойме пайшлі на выбары аб'яднаўшыся ў блёк з такімі-ж пакрыўджанымі народамі, як і народ беларускі.

Чаму такое дружнае выступленьне ўсіх польскіх партыяў і тых беларускіх, якія служаць чужым інтэрэсэм на беларускіх землях?

А вось чаму.

Эндэцыя „бароніць" беларускіх сялян ад беларусаў, бо стараецца даказываць, што ніякіх і нідзе беларусаў няма. Тыя беларускія групы, якія кіруюцца на Маскву, а другія на Варшаву, не ўважаюць беларускі народ, за народ, а проста за нясьведамую масу, якую паводле думкі першых, у заведзеных бальшавіцкіх парадках, лёгка можна загнаць у калектывы, а паводле думкі другіх, лёгка перарабіць на чыста польскіх патрыётаў.

Польскія г. зв. левіцовыя партыі, адстрашываюць беларускіх выбаршчыкаў ад беларускага сьпіску № 18, 1) каб як найбольш правесьці з беларускіх вокругаў польскіх паслоў і гэтым даказаць, што г. зв, „крэсы"—гэта чыста польская краіна і 2), каб пасьля пасылаць на нашыя землі як найбольш польскіх асаднікаў, задаваляючы сваіх польскіх сялян зямлёю.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Я не адказаў чаму беларускія незалежніцкія групы пайшлі на выбары ў блёку з іншымі народамі.

Адказ на гэта просты. Злучыў беларусаў з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы, супольны лёс і польскі выбарны закон.

Паводле выбарнага закону, на землях чыста польскіх, выбіраюць пасла; 48,50,56,58 тысяч жыхароў, а на землях беларускіх і ўкраінскіх, ці як палякі называюць на „усходніх крэсах", 87, 90,100 тысяч жыхароў. Закон гэты праведзены паводле статыстычных даных 1921 г. — з агульнай перапісі, якая зроблена ў 1920 г.

Пры гэтым яшчэ выкраены штучна выбарныя вокругі на „крэсах", прыкладам вокруг Пінскі, у які ўваходзяць паветы беларускія і украінскія, гэта дзелятаго, каб беларусы з украінцамі змагаліся,—а дзе двух б'юцца, заўсёды трэці карыстае. Таксама і вокруг Остраў у які ўваходзіць беларускі павет Бельскі і чатыры паветы чыста польскія ў тым ліку і павет Мінск—Мазавецкі, які знаходзіцца аж каля Варшавы. Ясна, што беларусы з гэтага вокругу самі адны, свайго пасла ніколі не правядуць. Гэтак выглядае Віленскі выбарны вокруг і зусім падобны да вокругу Пінскага, вокруг Сьвянцянскі.

Але і гэта яшчэ ня ўсё.

Паводле выбарнага закону, у Сойм выбіраецца 444 паслы, але 72 паслы не выбіраюцца ў вокругах, а раздзеляюцца партыям з спіску дзяржаўнага. Робіцца гэта вось так. Калі адна партыя — сьпісак праводзіць у шасьці вокругах хоць па аднаму паслу, дык дастае адзін мандат і па спіску дзяржаўным калі-ж адзін ці другі спісак—партыя праводзіць хаця-б і 30 паслоў, але толькі з двух, трох або нават і пяці вокругаў, з дзяржаўнага сьпіску мандату не атрымлівае ніводнага.

У мінулых выбарах у 1928 г. беларусы правялі толькі трох паслоў і толькі з аднаго вокругу, а дзеля таго, што ішлі на выбары ў блёку з украінцамі, немцамі і жыдамі, якія правялі сваіх паслоў з больш як шасьці вокругаў, атрымалі 10 мандатаў і з сьпіску дзяржаўнага. У гэтым ліку прайшоў з дзяржаўрага сьпіску і адзін беларускі пасол.

З гэтага бачым, што беларусы з шасьці вокругаў правясьці сваіх паслоў ня могуць, жыды так-жа не правядуць, а украінцам змагацца з беларусамі і нам беларусам з украінцамі няма патрэбы.

Дык вось што лучыць беларусаў украінцаў і жыдоў у блёк на выбарах у польскі Сойм.

Калі польскія партыі праводзілі гэты закон, дык мусіць мелі на думцы, што знайшлі на нацыянальныя меншасьці кій, але як прыказка кажа—кій мае два канцы — меншасьці зрабілі блёк.

Гэтак званая, польская лявіца тады не пратэставала проціў гэтага закону, які рабіў вялікую крыўду ўсім нацыянальным меншасьцям, а цяпер прыходзіць у нашу вёску і страшыць беларускага выбаршчыка блёкам нац. меншасьцяў. Але хто-ж вас змусіў да гэтага блёку, калі ня гэтыя-ж паночкі з польскай лявіцы?!

А ці ёсьць якая карысьць для нас беларусаў з гэтага тэхнічнага блёку, пасьля тае карысьці, якую атрымліваем у выбарах.

Называю гэты блёк тэхнічным, бо сапраўды ён ёсьць толькі тэхнічным — на час выбараў.

У сойме беларускія паслы працуюць супольна толькі з пасламі украінскімі, бо ў нас адны ідэалы і аднолькавы лёс лучыць у барацьбе за правы беларускага і ўкраінскага народаў. З жыдамі беларускія і украінскія паслы дужа часта незгаджаюцца. Часьцей згаджаюцца з жыдамі П.П.С., і іншыя польскія партыі і беларускія паслы з клюбу „Змаганьне", бо яны бароняць інтэрэсы места—жыхароў гораду, а паслы Беларускага Пасольскага Клюбу,—інтэрэсы вёскі.

Выясьніўшы вышэй прычыны блёлу і прычыны ненавісьці да яго, заклікаю ўсіх беларусаў Сьвянцянскага выбарнага вокругу, каму дарагая свая беларуская справа, у дзень 13 ліпня с. г. ісьці на выбары і галасаваць за свой сьпісак № 18.

Незалежнік.

## Аб чым сьведчаць рэзультаты перавыбараў у Лідчыне.

Як ведама нашым чытачом, рэзультаты перавыбараў у Лідчыне 25-га траўня аказаліся для беларусаў даволі сумнымі. З сямёх мандатаў чатыры дастала польская хлопская партыя (Stronnictwo Chłopskie, № 10), два мандаты работніцка-сялянскі клюб „Змаганьне" (№ 46) і адзін мандат „эндэцыя", таксама польская партыя. Гэта знача, што *фактычна беларусы, складаючыя бязумоўна пераважную большасьць насяленьня Лідчыны, ня ўзялі ніводнага мандату*, бо мы ня можам уважаць за нацыянальна беларускую партыю клюб „Змаганьне, які фактычна ідзе пад штандарам клясавым, а не нацыянальным і падтрымліваецца клясавымі арганізацыямі. *Такім чынам, мы ня ўзялі ніводнага нацыянальнага беларускага мандату там, — дзе беларусы фактычнай пэравагай беларускага насяленьня маглі-б узяць усе сем мандатаў!*

Дзе прычына гэтакай няўдачы?

Ясна, што прычына знаходзіцца 1) ў страшэнна нізкай ступені нашага палітычнага разьвіцьця і 2) нашай нацыянальнай нясьведамасьці.

Адна з гэтых прычын цесна зьвязана з другой, але першая з іх асабліва выразна выялілася ў страшэнна нізкай, як гавораць, фраквэнцыі, г. ё. *малой лічбе галасаваўшых.*

У цэлым вокрузе лічба галасаваўшых ледзь дасягае 25 проц. — 30 проц., а ў некаторых абводах, *дзе насяленьне выключна беларускае*, ледзь даходзіць да 9—10 проц. Гэта знача галасавала толькі адна дзесятая частка, а дзевяць з дзесяцёх выбаршчыкаў зусім на выбары ня йшлі! Такая нізкая ступень нашага палітычнага ўзгадаваньня асабліва яснай робіцца пры параўнаньні нас з немцамі, якія заўсёды даюць працэнт галасуючых ня меней, як 90 ці нават 95, а ў гэты раз пры перавыбарах у некаторых вокругах украінскіх, дзе немцы ўваходзілі ў блёк з імі, фраквэнцыя нямецкіх галасоў была 100 проц.! Гэта знача, што ні адзін голас не прапаў! Галасавалі ўсе да аднаго! І пры гэтым трэба падкрэсьліць, што асабіста самі яны ня былі зацікаўлены ў выбарах, бо на сьпісках стаялі выключна ўкраінцы, а немцы·ж галасавалі толькі ў імя салідарнасьці, — як сябры агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў. Так адносяцца да сваіх грамадзкіх абавязкаў народы культурна разьвітыя. На жаль нам яшчэ дужа і дужа далёка да гэтакай ступені разьвіцьця, бо большасьць нашых беларусаў мае дужа слабое прадстаўленьне аб палітычнай працы: —„усёроўна — кажуць — выбірай не выбірай — нам не палепшае". Ім здаецца, што толькі варта выбраць і паслаць аднаго-двух сваіх паслоў у Варшаву, як адразу ўсё і зробіцца: і падаткі зьменшацца, і зямля пабольшыцца, і паліцыя палепшыцца і г. д. Ня ведаюць, што іншыя народы вялі барацьбу за свой дабрабыт і вольнасьць цэлымі дзесяткамі гадоў, пакуль чагось нарэште дабіліся, ня прымаюць пад увагу, што у сойме і сэнаце ўсё вырашаецца большасьцяй галасоў і, выбраўшы якіх 5—6 беларускіх паслоў (замест 25-30, якіх маглі-б выбраць), чакаюць ужо, што гэтыя 5—6 асоб могуць адразу ледзь не перавярнуць увесь лад у Польшчы. Ня ведаюць і таго, што ўперад за ўсё важна, *каб перад усімі культурнымі народамі паказаць сваё нацыянальнае „я" і каб зьвярнуць на сябе і сваё палітычнае становітча ўвагу і іншых*

*народаў*. А гэта зрабіць і можна толькі праз выбары, гдзе і выяўляецца для другіх народаў уперад за ўсё, ці ёсьць такі народ ці яго няма, ці хоча ён жыць сваім нацыянальным жыцьцём, ці ня хоча. А што можна аб беларусах сказаць пасьля перавыбараў у Лідчыне? Усякі можа сказаць, што беларусаў там зусім няма, а калі і ёсьць, дык яны сваім нацыянальным жыцьцём жыць ня хочуць, бо нават большасьць іх зусім не галасуе, а калі галасуе, дык не за свае нумары, а за нумары клясавые ці за нацыянальна польскія.

Вось-жа мы прышлі і да другога пытаньня, — да нашай малой нацыянальнай сьведамасьці. З сямёх мандатаў, якія належаць з Лідчыны, — *пяць атрымалі бязумоўна польскія партыі* 4 „Stronictwo chłopskie" і адзін эндэкі. Прымаючы пад увагу, што большасьць насяленьня Лідчыны — беларусы, гэта знача, што *беларусы галасавалі за польскія партыі* і пры гэтым *галасавалі больш за ўсё за тую польскую партыю* („Stronictwo chłopskie"), *якая асабліва старанна, праводзе ў Сойме асадніцтва*! Як трудна было Беларускаму Пасольскаму Клюбу змагацца з гэтай партыяй пры ейнай большасьці, каб не дапусьціць у Сойме правядзеньня гэтага закону шкоднага для беларускага народу! А цяпер, калі самі-ж беларусы пабольшылі ў Сойме колькасьць паслоў з „Страніцтва хлопскага", дык ужо стала гварантаваным, што ў наступнай сэсіі гэтыя уставы аб асадніках бязумоўна пройдуць. Гэтакім чынам самі беларусы з прычыны сваей нясьведамасьці садзяць сабе на плечы польскіх асаднікаў! Вось якія сумныя вынікі гэтай нясьведамасьці бачым мы ў Лідчыне. Гэта паказывае, сколькі яшчэ працы трэба, каб давясьці беларускую сьведамасьць ня толькі да нямецкай, а нават да украінскай, бо ўкраінцы ў гэтым годзе ў ва ўсіх мясцох, дзе былі перавыбары, пабралі ўсе ўкраінскія мандаты, галасуючы за „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў" (№ 18).

*Хто ня ідзе на галасаваньне, той падтрымлівае сваіх праціўнікаў і гэтым самым дазваляе ім рабіць тое, чаго яны хочуць Дык на выбары павінныісьці ўсе!*

# Беларускі Пасолькі Клюб і яго праца ў Сойме і Сэнаце

(у 1928 — 1930 г.)

Разьбіцьцё адзінага беларускага нацыянальнага фронту страшэнна цяжка адбіваецца на беларускіх справах. Ужо і ў папярэднім Сойме, гдзе з пачатку было 14 паслоў і сэнатараў (бо ў 22-м годзе ішлі на выбары адзіным фронтам), праца гэтага клюбу адразу абнізілася, калі з яго выдзялілася пяць паслоў і стварылі асобны клюб „Грамады". Але ўсё-ж тады было працаваць лягчэй, і ў сутнасьці, ня гледзячы на падзел Клюбу гэта праца ішла разам і дружна. За некалькі гадоў супольнай працы паслы прывыклі адзін да другога, зналі адзін другога, верылі адзін другому і ніколі ня было, каб „Грамада" ішла ў Сойме ў разрэз з „Беларускім Клюбам". „Дзяніла" і сварыла паслоў толькі Луцкевічава газэта, якая старалася з усіх сілаў чарніць паслоў Клюбу, якія не захацелі скакаць пад ягоную дудку.

Але-ж другія выбары ў 1928 годзе прайшлі на жаль пад знакам падзелу. Як не стараўся Беларускі Нацыянальны Камітэт аб'еднаць усе беларускія групы ў адзіны выбарны блёк, гэта яму не ўдалося. Былыя грамадоўцы пайшлі з сваім асобным сьпіскам. Разумеецца пашла з асобнымі сьпіскамі і беларуская „Санацыя", ўзноў разьбіўшыся на некалькі групаў, прадаўжаючы шкодную работу разьбіцьця беларускага фронту.

Зразумела, пры гэтакіх варунках выбары не маглі прайсьці так добра, як у першы раз, тым больш, што ў перадвыбарнай барацьбе ўсе гэтыя групы бязлітасна лаялі адзін другога, толькі зьбіваючы беларусаў з толку, — за каго-ж галасаваць?

Такім чынам у Беларускі Пасолькі Клюб увайшло ўжо толькі шэсьць асоб: чатыры паслы (Ярэміч, Каруза, Стэповіч і Юхневіч) і два сэнатары (Багдановіч і Рагуля). Аказаўшыся ў такой невялічкай колькасьці, новы Клюб ня мог працаваць так шырака, як клюб папярэдні. Перадусім трудна было яму падтрымываць цесную сувязь з выбаршчыкамі, асабліва з вёскай. Як ведама срэдствамі такой сувязі могуць служыць толькі: 1) прэса 2) мітынгі і лекцыі на мясцох.

Для прэсы патрэбны перадусім сродкі, бо з сумам павінны прызнацца, што нашы селяне-беларусы за газэты плаціць ня любяць (а часта і не маюць чым плаціць), і газэты ў большасьці не аплачываюць коштаў выданьня, а малая лічба паслоў Клюбу не дае магчымасьці нават і пры дужа ахвярных складках задавольніць усіх патрэб і палітычных, і культурных беларускага грамадзянства пры тых расходах на палітычную працу, якую прыходзіцца вясьці ў цэнтры.

Мітынгі і лекцыі, як ведама цяпер абстаўлены дужа цяжкімі варункамі. Трэба на іх прасіць дазволу. Дазвол гэты далёка не заўсёды даюць, а кожныя такія просьбы адымаюць многа часу, дзеля чаго гэтыя лекцыі і мітынгі можна рабіць ня часта. Што пры гэтакіх варунках можна зрабіць шасьцём паслом на 26 беларускіх паветаў? А галоўнае тое, што гэтыя шэсьць паслоў павінны былі перадусім рабіць сваю працу ў **цэнтры**. Пасол дзеля таго і пасол, што ён некуды **пасылаецца**, г. ё. пасылаецца ў цэнтр ад народу, каб **там** рабіць тую працу, на якую яго паслалі.

Вось пры гэтай маласьці складу, Беларускаму Пасольскаму Клюбу і прышлося ўперад за ўсё сабраць усе свае сілы на гэтай працы ў цэнтры, і без перасады тут можна сказаць, што гэта **праца ў цэнтры ішла ня толькі не слабей, чым у папярэднія гады, але нават у некаторых галінах палітычнага жыцьця дала такія рэзультаты, якіх раней дабіцца не ўдалося.** Даць справаздачу у гэтай працы і высьветліць гэтыя рэзультаты і ёсьць мэтай гэтай стацьці.

Я ня буду падробна апісываць тыя варункі, пры якіх прыхадзілася працаваць Пасольскаму Клюбу і тыя адносіны міжпартыйныя, якія находзіліся ў Клюбе з іншымі клюбамі і нацыянальнасьцямі. Яны пабольшасьці нічым не адрожніваліся ад тых, якія былі ў пяпярэднім Сойме, а аб іх беларускія паслы ў свой час давалі перад грамадзянствам справаздачу *).

Буду гаварыць адразу аб рэзультатах гэтай працы.

*) Глядзі даклад сэнатара В. Багдановіча, зложаны на беларускім зьездзе ў канцы 1927 г. Надрукаваны ён у „Праваслаўнай Беларусі" №№ 2 (8) і 3(9) за 1928 год.

# Крыху з людазнаўства.

## Духовы стан людзей нецывілізаваных.

Калі параўняць чалавека цывілізаванага з нецывілізаваным, або цэлыя народы, то ўбачым між імі вялікую рожніцу. Адвак мы ня маем права адных хваліць, а другіх зусім ганіць і прыпісываць ім іхную нецывілізаваннасьць, як нешта благое, ці няздольнасьць уроджаную, дзеля якой нецывілізаваны ня можа стацца цывілізаваным. Вучоныя: Nott, Gliddon, Heckel і інш. прыпісываюць народам нецывілізаваным з аднаго боку нізкасьць здольнасьцям духовым, а з другога находзяць іхную нецывілізаваннасьць у гатунковай рожніцы між каляровымі і белымі.

Перадусім, каб гаварыць аб культуры і здольнасьцях да яе народаў нецывілізаваных, трэба хоць крыху зьвярнуць увагу на варункі, якія зьяўляюцца спрыяючымі да разьвіцьця культуры, а якія тамуючымі.

Культура людзкая, здаецца, цалком залежыць ад грунту і клімату. Крайняя кліматычнасьць, вялікае багацтва, ці таксама убогасьць грунту, зусім не дазваляюць рацьвіцьцю культуры, або прынамсі перашкаджаюць ёй. Што гарачы клімат утрудняе ўсялякую працу фізычную і духовую, то гэта факт, які пацьвярджаюць найлепш эўропэйцы, што пражываюць ў гарачых краёх. Жыхароў гарачых краёў страшэнна апановывае ляніўства неахвота да ўсялякай працы, ці то фізычнай ці то духовай; а асабліва яны зьяўляюцца лянівымі да працы духовай— умысловай. Усялякая бяздзейнасьць і марнаваньне часу ёсьць ім найбольш пажаданым. Дзеці іхныя таксама чуюць страшэнную адразу да ўсялякай працы і думаньня. Жонкі і дочкі, кажа Schweiger-Lerchenfeld, не займаюцца ані музыкай, ані работай ручной, а найлепш аб іхным ляніўстве сьведчаць іхныя памешканьні як з вонку, так і ў нутры.

Да гэтага прылучаецца яшчэ іншая акалічнасьць, а іменна тая, што ў гарачай стрэфе вялікія прыродныя багацьці не змушаюць чалавека да цяжкой працы для пражыцьця. Прырода задавальняе яго сваімі багацьцямі і гэтым самым не змушае чалавека клапаціцца і думаць, дзеля чаго не скланяе фізычна і духова разьвівацца. А прытуплены дух чалавека ніякае патрэбы ня чуе зрушыць з месца сваю бяздзейнасьць. Можам гэта ўбачыць на патомках партугальцаў у Індыях Усходніх. Прышэльцы з Эўропы, як кажа Taylor, знайходзяць іх, марнуючымі сваё жыцьцё ў бедных хатках, сярод мноства буйных красак і фруктаў, якія быццам маюць сьведчыць, што чалавек пайшоў назад ад культуры.

Варожая і неспрыяючая прырода, убогі грунт, востры клімат, таксама дрэнна дзеюць на разьвіцьцё духовае чалавека. Краіны, ў якіх няма прыродных багацьцяў, трапікальнае сонца безгранічныя абшары замяняе ў пустыню; або дзе вечная зіма змушае чалавека да найвялікшых высілкаў, у барацьбе за свае існаваньне ня можна спадзявацца, там таксама каб дух чалавека рабіў прагрэс.

А таксама, дзе прырода варожа выступае проціў чалавека, там барацьба за існаваньне фізычнае прыгнятае цела і дух чалавека бязупынна. Клопаты аб жыцьцё фізычнае і заўсёднае змаганьне за гэтае, не дае ім ані часу, ані магчымасьці, каб дух мог разьвівацца.

Трэба ведаць, што народы нецывілізаваныя лёгка падлягаюць усялякім уплывам, тамуючым разьвіцьцё.

Прырода багатая, або ўбогая, трапікальны клімат, вечная зіма, заўсёднае качаніўнічае жыцьцё, уціск праз сільнейшых, (дзеля чаго ня маюць бацькаўшчыны) недахоп звонку культурных уплываў на архіпэлягах, вось гэта і ёсьць прычыны духовага застою не- нецывілізаваных народаў. Такім чынам грэшна было-б судзіць народы нецывілізаваныя, ня ўзяўшы пад увагу вышэй успомненых акалічнасьцяў.

Дзеля гэтага, гаворачы аб духовых здольнасьцях народаў нецывілізаваных, ня можна браць пад увагу сьціслa ступень іх разьвіцьця, але толькі агульна падставовую аналёгію жыцьця духовага. І хоць найбольш будуць некаторыя народы аддалёныя ад сябе, або наймеш будуць падобныя да сябе расай, або племям, аднак іх здольнасьці ўмысловыя будуць падобнымі да сябе, як Hoffmeister кажа: „аб адналітасьці і раўнамернасьці прыроды чалавека сумлявацца нельга."

Сям'я, жанімства, таварыскае жыцьцё, выхоўваньне дзяцей, права ўласнасьці, лад, палітыка, урачыстасьці, танцы (скокі) промысл, ужываньне агню, уроджанае любасьць да ўпрыгажэньня, пацяг да пахучых і алькагалёвых напітнаў, маральнае пачуцьцё, вера ў вышэйшыя істоты, у загробнае жыцьцё, рыматворчае мастацтва — ўсё гэта дае выразныя доказы, што дух, дзейны ў народаў на найніжэйшай нават ступені разьвіцьця стаячых, ёсьць той-жа самы, што і ў найвышэй разьвітых людзей.

З гэтага бачым, што чалавецтва зьвязываецца духова ў адну сям'ю, хоць некаторыя стаяць культурна вышэй, або ніжэй. Стаць усяму чалавецтву на адпаведную ступень культурнага разьвіцьця нельга, бо на на гэта некаторым народам недазваляюць варункі. Прыкладам возьмем наш Беларускі народ, калі ён стаіць культуральна ніжэй ад некаторых народаў Эўропы, то толькі дзеля таго, што яму варункі былі і ёсьць немагчымыя дзеля разьвіцьця яго культуры духовай і матэр'яльнай.

**М. Пяцюкевіч.**

# БЕЛАРУСЫ з паветаў: Сьвянцянскага, Браслаўскага, Пастаўскага і Дзісненскага, пакажыце сваю нацыянальную і палітычную сьведамасьць у дзень 13 ліпня с. г., ідучы як адзін чалавек, мужчыны і жанчыны да выбарных абводаў на галасаваньне і галасуйце за свой беларускі сьпісак № 18

Галоўным выразным рэзультатам гэтае працы ёсьць тое, што Беларускаму Пасольскаму Ллюбу ў гэтым годзе нарэшце ўдалося ўнясьці ў бурджэт (і абараніць свой унёсак) — паўмільёна польскіх злотых на беларускую асьвету. З гэтых грошаў 200.000 асыгнавана на будову дому для беларускай гімназіі ў Навагрудку, 150.000 на беларускія вучыцельскія курсы, 100.000 на беларускую вучыцельскую сэмінарыю і 50.000 на выданьне беларускіх падручнікаў. Гэта яшчэ першы выпадак, што Сойм асыгнаваў грошы на беларускую справу, і гэта выключна дзякуючы працы беларускага клюбу.

(Працяг будзе).

## Выбарная хроніка.

**Беларусы Сьвянцянскага выбарнага вокругу, сяляне работнікі, мужчыны і жанчыны, у нядзелю 13 ліпня с. г., усе як адзін чалавек ідзіце на выбары і галасуйце за свой беларускі сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Польшчы № 18.**

**Да ведама выбаршчыкаў**

Паводле выбарнага закону, картачка для нумару на галасаваньне павінна быць з белай і чыстай паперы. Нумар на картачцы можа быць напісаны рукой. Пішучы на белай і чыстай паперы, апрача нумару 18 няможна ставіць ніякіх знакоў, а толькі 18.

Прад галасаваньнем трэба агледзіць нумарок, каб ён быў чысты з выразнай лічбай 18. Трэба так-жа, каб нумар быў чысты і на старонцы адваротнай; без знакаў і лічбы.

**Грамадзяне!**

Выбарны закон дазваляе прадстаўнікам ад сьпіску быць прысутнымі пры абвадовай выбарнай камісіі ў часе галасаваньня дзеля нагляду над правільнасьцяй галасаваньня.

Каб скарыстаць з гэтых правоў, выбаршчыкі мясцоў павінны прыслаць заяву ў Беларускі Выбарны Камітэт (Wilno ul. Ludwisarska 1-19), каб выслаць ім адпаведнае пасьведчаньне. Так-жа ўсе выбарныя друкі і нумаркі выпісывайце ад гэтага Камітэту.

**Як даведацца больш падрабязна ў справе выбараў.?**

Беларускі Выбарны Камітэт высылае сваіх інструктароў у паветы, а так-жа па выбарным вокрузе разьяжджаюць беларускія сэнатары, пасолы і кандыдаты ў пасьлы, якія разьясьняюць сялянам аб выбарах. Калі хто ня ведае, як **трэба галасаваць і ці трэба ісьці на выбары**, а да гэтага часу з інструктарам, паслом, сэнатарам або кандыдатам на пасла яшчэ нідзе не спаткаўся, няхай пастараюцца бываць на кірмашох, у нядзелі і сьвяты ў царкве ці касьцеле і там на рынку шукай людзей раздаючых адозвы з № 18 і нумаркі.

## Беларускія справы.

### Польскі каталіцкі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі не прызнае Каталіцкага Беларуска-Літоўскага Камітэту.

У Вільні, як ведама, 4 м. м. адбыўся супольны зьезд каталікоў беларусаў і літоўцаў. Гэты зьезд выбраў Камітэт, дзеля працы на ніве рэлігійнай сярод беларускага і літоўскага каталіцкага насельніцтва. Зьезд прыняў рэзалюцыі, у якіх дамагаецца ўвядзеньня ў дадатковыя набажэнствы у беларускіх парахвіях мовы беларускай, а ў літоўскіх — мовы літоўскай, а так-жа паставіў дамаганьне ўвядзеньне беларусазнаўства ў духоўныя каталіцкія сэмінарыях на Беларусі. Гэтыя рэзалюцыі, зьезд даручыў выбранаму Камітэту падаць каталіцкім духоўным уладам.

Беларуска-Літоўскі Каталіцкі Камітэт 27 г. м. выслаў да арцыб. Ялбжыкоўскага дэлегацыю з рэзалюцыямі зьезду. Арцыб. Ялбжыкоўскі, як і трэба было спадзявацца здаволіць дамаганьні зьезду адмовіўся, адмаўляючы ўсякае супрацоўніцтва з каталікамі беларусамі і літоўцамі.

Ясная справа, дзе-ж польскі біскуп можа згадзіцца на супрацоўніцтва з Беларусамі і Літоўцамі, ды яшчэ здаволіць іх патрэбы, калі ён хоча разумець — раз каталік, дык паляк — а тут знаходзяцца каталікі і не палякі, ды яшчэ беларусы, якіх ён не прызнае за народ.

### Аб выніках матуральных экзамінаў у Віл. Бел. Гімназіі.

Як уперад мы пісалі, да пісьменных экзамінаў у Віл. Бел. Гімн. прыступіла 27 асобаў: 15 вуч. Віл. Бел. Гім. 5 вучняў Клецкай Гімн. і 7 экстэрнаў. Да вусных дапушчана 14 вуч. Віл. Бел. Гім. 1 Клецкай Бел. Гім. і 4 экстэрнаў. На вусных экзамінах „зрэзаліся“: 1 вуч. і 1 экст. Матуру атрымалі ў гэтым годзе наступныя асобы: Л. Галяк, З. Гур'янава, М. Кунцэвіч, С. Мацук, М. Маркевіч, Г. Патомская, Р. Рак.-Міхайлоўскі, Ул. Рудніцкі, А. Сакалоў, В. Тумаш, М. Вітушка, Э. Залкінд, П. Засім, У. Казак, Хв. Ільяшэвіч, А. Мюлер і С. Яцкевіч.

Усім матурыстым жадаем энэргічна і вытрывала працаваць у вышэйшай школе дзеля дабра нашае Вацькаўшчыны Беларусі!

## З краю.

### Культурная праца на вёсцы.

У вёсцы Алешках, Будслаўскай гм., Вялейскага пав., гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры у Будславе, зладзіў 1 чэрвеня с. г. беларускае прадстаўленьне. Ставілі п'есу „Выбары Старшыні“. Спэктакль прайшоў вельмі ўдала, сьцягваючы каля 300 асоб публікі.

У нядзелю 8 г. м. той-жа гуртох зладзіў такое-ж прадстаўленьне ў м. Будславе. Вялікая гмінная саля ледзь зьмясьціла зацікаўленых беларускім спэктаклям.

### Прэзыдэнт Польшчы адведвае Беларуска-Літоўскія землі.

Дня 14 г. м. прэзыдэнт польскай рэспублікі Мосьціцкі прыехаў у сталіцу нашага краю Вільню, адкуль паедзе на правінцыі Віленшчы.

У Вільні, прэзыдэнт Мосьціцкі адведаў некаторыя таварыствы гандлёва-прамысловыя і культурна-прасьветныя ўстановы, у тым ліку і Віленскую Беларускую Гімназію.

Адведаньне праз галаву Польшчы Беларускай Гімназіі ў Вільні, можна тлумачыць, што польская дзяржаўнасьць усё-ж такі прызнае існаваньне беларусаў у межах сучаснай Польшчы. Гэтага ня хоча прызнаць толькі вялікадзяржаўны апэтыт польскай эндэцыі.

Цікава, як прэзыдэнт Польшчы аднясецца да патрэпаў беларускага народу, якіх ня можна ня ўбачыць у нашым краю.

## Навіны.

**Звальненьне з вастрогу „грамадаўцаў.“** Пасьля звальненьня Б. Тарашкевіча і С. Рак-Міхайлоўскага ўжо звольнены: б. пасол Мятла і б. сэкрэтар Ц. К. „Грамады“ Бурсэвіч.

Мятла і Бурсэвіч звольнены так-жа ўмоўна праз мін. справядлівасьці, аж да часу пакуль прэзыдэнт „не ўласкавіць“.

Яшчэ асталіся ў вастрозе засуджаныя ў працэсе „Грамады“: Валошын, Акінчыц і Грыгаровіч.

# 18

# 18

# 18

# 18

# 18

**Нумары восемнасткі з газэты выраж кожны паасобку, схавай на галасаваньне, лішнія раздай суседзям і знаёмым.**

## З жыцьця у Польшчы.

### Сойм і Сэнат дамагаюцца голасу.

Як мы ўжо пісалі, паслы апазыцыйных партыяў падавалі заяву прэзыдэнту, дамагаючыся скліканьня надзвычайнай сэсіі Сойму. Прэзыдэнт Сойм быў склікаўшы на 23 мінулага м-ца і ў той-жа дзень адлажыў сэсію Сойму на 30 дзён.

Пасьля соймавага манэўру, зрабіў такі-ж манэўр і Сэнат: Сэнатары падалі заяву аб скліканьні надзвычайнай сэсіі сэнату. Тое самае выйшла і з Сэнатам. Надзвычайная сэсія Сэнату была склікана на дзень 18 г. м. і ў гэты-ж дзень адложана на 30 дзён.

Уся польская левіца яшчэ больш абурылася на польскую санацыю і пастанавіла пратэставаць проціў недапушчаньня Сойму і Сэнату да голасу.

Дзеля такога пратэсту, польская левіца склікае на 29 г. м. ў Кракаве кангрэс, на якім і будуць дамагацца ад ураду голасу для Сойму і Сэнату.

Ці гэты кангрэс, што паможа сучаснаму польскаму парляманту, спадзявацца трудна, бо ня так даўно, прэм'ер ураду Славэк сказаў ня двузначна, што сучасны Сойм ужо да голасу ня дойдзе, а гэныя правы, каб Сойму гэтага да голасу не дапусьціць, урад мае — можа развязаць Сойм і распісаць новыя выбары.

**Але і ўрад ня ведае, што рабіць з Соймам.** Адны кажуць, што ўрад развяжа Сойм і Сэнат, пасьля чаго адбудуцца выбары яшчэ сёлета ўвосені, а другія талкуюць, што выбары адбудуцца аж вясной.

Апазыцыйныя газэты пішуць, што ўрад выслаў да старастаў „квэст'ёнар", у якім пастаўлены два пытаньні: 1) як люднасьць адняслася-б да развязаньня Сойму і Сэнату і 2), як паставілася-б да не вызначэньня новых выбараў?

Словам, ігра ўраду з Соймам ужо падыходзіць да канца, а як гэта рызыграецца і чым гэта палітычная камэдыя кончыцца, пакажа недалёкая ўжо будучыня.

### Хочуць каб памаглі.

Польская левіца пачуўшыся слабой прад сучасным польслім урадам у справе сучаснага становішча Сойму і Сэнату ў Польшчы, зьвярнулася з прапазыцыяй да Нацыянальных Меншасьцяў, каб апошнія памаглі ёй у змаганьмі з урадам за парлямантарныя правы.

18 г. м. адбылася ў Варшаве супольная конфэрэнцыя: П.П.С., „Вызваленьня", „Строн. хлопскага" і „Пяста", на якую былі запрошаны і прадстаўнікі Нац. Меншасьцяў: Беларусы, Украінцы, Немцы і Жыды.

На конфэрэнцыі, польская левіца падала прапазыцыю выступіць з пратэстам проціў адкладываньня сэсіі Сойму і Сэнату. Пры гэтым, прадстаўнікі польскай левіцы запрапанавалі далучыцца да гэткага пратэсту і Нац. Меншасьцям.

На гэту прапазыцыю, з пасярод прадстаўнікоў Нацыянальных Меншасьцяў, згадзіўся толькі прадстаўнік нямецкага пасольскага клюбу сэнатар Патт. Прадстаўнік жыдоўскага кола заявіў, што без паразуменьня з сваім клюбам далучыцца ня можа. Ад клюбаў: украінскага — сэн. Гарбачэўскі і беларускага — сэн. Рагуля заявілі: — выходзячы з залажэньня агульнай палітычнай лініі беларускага і ўкраінскага пас. клюбаў, якая астаецца бяз зьмены ад іх уваходу ў польскі Сойм і Сэнат, яны без паразуменьня з сваімі клюбамі, далучыцца да гэтага пратэсту ня могуць.

Пры гэтым трэба сказаць, што агульная палітыка польскай левіцы, ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў, ані чуць ня рожніцца ад палітыкі сучаснага польскага ўраду. Дык зусім зразумела, што беларусы і ўкраінцы ня хочуць падтрымаць у гэтым выпадку польскай левіцы, не падтрымліваючы адначасна і ўраду.

## Кожны сьведамы беларус галасуе за № 18.



Рэдактар С. Сьвістун. Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны Вільня, Завальная 6. Выдавец пас. Ф. Ярэміч